## Іспыт на вошы

**Аляксандр ДУБРАВІН**

На днях Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка даў беларускаму драматургу, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі СССР Аляксею Анупрэевічу Дудараву прэмію імя Лукашэнкі. Дудараў шчыра яму падзякаваў, крышку сагнуў ногі, паціснуў руку і светла ўсміхнуўся. Масоўка сядзела ў зале, зайздросціла і з панурасцю пазірала на падзею. Гэта ўсё потым паказалі па тэлебачанні як прыклад яднання нацыянальнай інтэлігенцыі вакол свайго лідэра, як нястомны клопат цяперашняга начальства аб беларускай культуры.

Памер прэміі вельмі значны нават для масцітага творцы: амаль што трыста(!) даляраў. За сто даляраў у нас некаторыя з ахвотай цалуюць туды, куды загадваюць. За дзвесце — залезуць хоць пад слана, нават на марозе. Ну, а трыста – гэта тая сума, якая ўжо адпавядае ўзроўню буйных творчых асобаў, народных летуценнікаў, шукальнікаў вобразаў, канструктараў думак – нашых шаноўных творчых інтэлігентаў. Сярод іх на першым месцы ідуць, як падалося, мастакі, артысты, цырульнікі і драматургі. Ім – нашыя захапленні і віншаванні.

На трыста даляраў у нашай краіне можна знатна пашыкаваць, купіць харошы тэлевізар альбо відэа. Гэта вельмі важна, асабліва для драматургаў, каб можна было збоку, прафесійна і кампазіцыйна ўбачыць сваё найлепшае дасягненне, бясконца пракручваць у запісе, паказваць і дружбакам, і крытыкам, і рэжысёрам, і маладым смяшлівым артысткам гэты спіжарны момант свайго жыцця, гэтую вяршыню творчай кар'еры: сам Лукашэнка табе ўручае прэмію свайго імя. І хай зайздросцяць панурыя апазіцыянеры, няхай лаюць! Хай бяруць іх згрызоты і роспач! Гэта іхнія праблемы.

Лаўрэаты прэміі імя Лукашэнкі, безумоўна, бясконца шчаслівыя людзі. Многа радасці прыйшло ў іхнія сем'і. З усіх краінаў свету бягуць да іх гарачыя віншаванні ад замежных калегаў. Тэлефануюць іншагародныя сваякі, запрашаюць творчыя суполкі. Іхнія партрэты змяшчаюць на сваіх старонках буйнейшыя газеты. Гэта, безумоўна, велізарная слава і адказнасць. Як застацца на такім высокім творчым уздыме і надалей, як аддзякаваць народу ў асобе таварыша Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі персанальна?

Для беларускага драматурга Дударава, аўтара знакамітай п'есы «Радавыя», так пытанне не стаіць. У яго ёсць выдатная магчымасць у самы бліжэйшы час (на дакументальным матэрыяле) напісаць п'есу «Палкоўнікі», у якой у геаічным і чалавечым плане будзе адлюстравана дзейнасць беларускіх і расійскіх афіцэраў з атачэння таварыша А.Р.Лукашэнкі: таварышаў Латыпава, Шэймана, Посахава, Замяталіна, Ерына, Навумава ды іншых. У галоўнай ролі – галоўнакамандуючага маёра Лукашэнкі – можна будзе заняць яшчэ аднаго лаўрэата гэтай прэміі артыста Хведара Шмакава. Тады на гэтае відовішча ўвогуле нельга будзе дастаць квіткоў: адна за другой будуць на яго хадзіць у культпаходы роты чэкістаў, міліцыянтаў, дыпламатаў, вертыкальшчыкаў, дэпутатаў палаты №2, вайскоўцаў, сувораўцаў. А ўжо прэміяў надаюць – вагон! Нават расійскіх.

Адна праблема: хто будзе ставіць гэты спектакль, хто там будзе выконваць іншыя ролі? Гэта быў бы сапраўдны іспыт для тэатральнай інтэлігенцыі, як думаеце?

## Прэс-канферэнцыя па справе «Мэджыка»

**11 студзеня ў Мінску Беларуская асацыяцыя журналістаў правяла прэс-канферэнцыю з нагоды падзеяў, якія разгарнуліся вакол прыватнай друкарні «Мэджык». У прэс-канферэнцыі прынялі ўдзел дырэктар «Мэджыка» Юры Будзько, рэдактары газет Іосіф Сярэдзіч («Народная воля»), Павал Жук (НАША СВАБОДА).**

Фота IREX/ProMedia

9 студзеня судовыя выканаўцы апячаталі частку абсталявання друкарні «Мэджык», якая рашэннем суда павінна пайсці на пакрыццё запазычанасьці Беларускага Фонду Сораса, сума якога складае 78 тысяч долараў ЗША. «Тое, як улады абыходзяцца з прыватнай друкарняй, у якой друкуецца каля 20 незалежных газет, у тым ліку такія вядомыя, як «Народная воля», «Белорусская деловая газета», НАША СВАБОДА. «Рабочы», — ставіць пад пагрозу існаванне не толькі «Мэджыка», але і іншых нешматлікіх недзяржаўных друкарняў. Любая з іх у любы момант можа апынуцца пад пагрозай страты ліцэнзіі. Відавочна, што перад абліччам будучых прэзідэнцкіх выбараў улады разгарнулі шырокую, усеабдымную кампанію з мэтаю паставіць пад татальны кантроль усе суб'екты публічнай дзейнасці, найперш сродкі масавай інфармацыі, а таксама тэхнічныя службы, якія забяспечваюць дзейнасць СМІ», — канстатуе Беларуская асацыяцыя журналістаў.

Падчас прэс-канферэнцыі Павал Жук (галоўны рэдактар газеты НАША СВАБОДА) сказаў: «Улады рыхтуюцца да выбараў. Я маю інфармацыю пра негалосны загад Дзяржаўнаму камітэту друку прыпыніць выпуск газет на ўсіх прыватных друкарнях, узяць пад кантроль станкі, якія могуць друкаваць вялікія наклады. Дзеянні, якія прадпрымаюць улады, – гэта проста сродак для спынення выхаду незалежных газет. Першай «трапіла пад нож» фірма «Мэджык» – найбольш задзейнічаная ў друку незалежных газет».

Іосіф Сярэдзіч («Народная воля»): «Відавочна тое, што ідзе выпіхванне незалежнай прэсы за межы краіны. Гэта чарговае вялікае глупства ўлады, якае забывае пра эфект бумеранга». ■

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна»**

## Грыб трапіў у аварыю

**Алесь ШМЯЛЁЎ**

У суботу на аўтамабільнай трасе Віцебск-Мінск перакуліўся аўтамабіль, у якім знаходзіўся экс-спікер Вярхоўнага Савета, які падпісаў Канстытуцыю 1994 года, Мечыслаў Грыб. На шчасце, ніякіх сур'ёзных пашкоджанняў ні Грыб, ні пасажыры, што знаходзіліся з ім у салоне «іншамаркі», не атрымалі.

Мечыслаў Грыб узначальвае Цэнтральны Савет па падрыхтоўцы і назіранні за выбарамі, і менавіта гэтая арганізацыя заявіла 17 кастрычніка пра значныя фальсіфікацыі падчас правядзення выбараў у «палатку».

Раней аўтамабільныя аварыі з «удзелам» беларускіх палітыкаў сканчаліся не заўсёды так добра. ■

## Чарговы фарс-сход

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

Чарговы акт дзяржаўнай трагікамедыі, якую перыядычна разыгрывае правячы рэжым, пройдзе 18 траўня пад назваю «2-гі Усебеларускі сход». Аляксандр Лукашэнка падвядзе рысу пад сваім 7-гадовым кіраўніцтвам Беларуссю і намалюе перспектывы далейшага развіцця краіны.

Ніхто не сумняваецца, што гэты сход, як і першы, які прайшоў напярэдадні лістападаўскага рэферэндуму 1996 года, закліканы празамбіраваць масавую свядомасць выбаршчыкаў. Пазіцыі А.Лукашэнкі на цяперашні момант дужа пахіснуліся, таму неабходна стварыць хоць бы ўражанне «усенароднай падтрымкі».

Можна не пагрэбаваць такімі метадамі, як стварэнне Рэспубліканскага каардынацыйнага савета палітычных партыяў і грамадскіх аб'яднанняў (РКС). Рашэнне пра гэта прынятае 10 студзеня двума дзесяткамі структураў, якія, па словах памочніка прэзідэнта Сяргея Посахава, «аб'ядноўваюць большасць беларускага народа». Гэтая «большасць» — Рэспубліканская партыя, Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці, БПСМ, Кампартыя Беларусі, Нацыянальная акадэмія навук , Беларускі саюз кампазітараў, Усебеларускае аб'яднанне казацтва (?).

Ініцыятары стварэння РКС прынялі заяву, што новае аб'яднанне грунтуецца на «разуменні неабходнасці кансалідацыі здаровых сілаў грамадства з мэтай умацавання стабільнасці і стваральнага руху ў 21 стагоддзі» і «падтрымлівае сацыяльна-эканамічны курс прэзідэнта краіны А.Лукашэнкі». Як кажуць, каментары залішнія... ■

## Жонцы не даюць бараніць мужа

Генеральная Пракуратура РБ адмовіла жонцы былога прарэктара Гомельскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута Уладзіміра Раўкова ў праве выступаць у якасці абаронцы мужа ў крымінальным працэсе. Уладзімір Раўкоў знаходзіцца пад вартай 17 месяцаў па абвінавачанні ў хабарніцтве.

Гэтая адмова была матываваная тым, што Наталля Раўкова не можа быць абаронцам свайго мужа, бо ўжо выступала ў гэтай справе ў якасці сведкі. Яна ў сваю чаргу сцвярджае, што «паказанняў не давала. Больш за тое — 21.06.2000 г. напісала адмову ад дачы паказанняў, бо, згодна з арт.289 ч.4 КПК РБ, я маю на гэта права як бліжэйшая сваячка».

Згодна з арт.62 Канстытуцыі РБ, Н.Раўкова мае права быць прадстаўніком свайго мужа ў судзе. Так, жонка былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра Юлія Чыгір і Святлана Уласава, дачка былога міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава, скарысталі сваё права і выступілі ў судзе абаронцамі сваіх блізкіх.

Уладзімір Раўкоў знаходзіцца ў рэспубліканскай больніцы Камітэта па выкананні пакаранняў пры МУС. Яго здароўе пагоршылася ў выніку выкарыстання падчас допытаў псіхатропных рэчываў і галадоўкі, якую У.Раўкоў праводзіў у СІЗА. Знаходзячыся ў бальніцы, У.Раўкоў не здолеў азнаёміцца з матэрыяламі сваёй справы пасля заканчэння папярэдняга следства. У выніку, у парушэнне арт. 200 КПК РБ, матэрыялы справы былі перададзеныя ў суд.

Судовы працэс над колішнім прарэктарам Гомельскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута адбудзецца ў Гомелі 13 лютага.

Справа будзе разгледжаная выязной Вайсковай калегіяй Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь. Згодна з новым Крымінальна-Працэсуальным Кодэксам, больш не прадугледжваецца накіраванне справы судом на дадатковае расследаванне. Цяпер суддзя павінен разгледзець справу па сутнасці і вынесці абвінаваўчае альбо апраўдальнае рашэнне. Паколькі апошнія ў нашай краіне – рэдкасць, то суддзі будуць выносіць у асноўным абвінаваўчыя вердыкты. ■

**Праваабарончы цэнтр «Вясна»**

## Як выкарыстаць 500 тысяч га земляў, забруджаных радыенуклідамі

**Марат ГАРАВЫ**

Праз 15 гадоў пасля чарнобыльскай катастрофы існуе праблема выкарыстання 500 тысяч гектараў земляў, забруджаных радыенуклідамі. Пра гэта заявіў акадэмік Акадэміі аграрных навук Беларусі, дырэктар навукова-даследчага дзяржаўнага прадпрыемства «Інстытут глебазнаўства і аграхіміі» Іосіф Багдзевіч.

Паводле ягоных слоў, за 15 гадоў, што прайшлі пасля Чарнобыля, радыяцыйнае становішча на сельскагаспадарчых угоддзях краіны палепшылася. Так, плошча забруджаных радыенуклідамі сельгасугоддзяў скарацілася з 1,7 да 1,3 мільёна гектараў. «Разам з тым роля ахоўных мераў, што прымяняюцца ў аграпрамысловым комплексе, не зменшылася, а ўзрасла ў сувязі з тым, што больш за 70% гадавой дозы апраменьвання насельніцтва атрымлівае з прадуктамі харчавання», — зазначыў вучоны. Паводле ягоных словаў, вытворчасць чыстых прадуктаў харчавання ёсць прыярытэтнай задачай з пункту гледжання айчыннай эканомікі і здароўя людзей.

Дзякуючы комплексу ахоўных мераў, прымяняемых у сельскагаспадарчай вытворчасці, удалося прыкладна ў 10 разоў зменшыць паступленне цэзію ў харчовы ланцужок і стронцыю — у 4 разы, падкрэсліў акадэмік.

Для выкарыстання 500 тысяч гектараў земляў, забруджаных цэзіем і стронцыем, мяркуецца максімальна засеяць гэтую тэрыторыю рапсам, таму што насенне гэтай унікальнай культуры назапашвае толькі 3% стронцыю і 6 працэнтаў цэзію, а ў рапсавым алеі радыенуклідаў практычна не застаецца. Апрача таго, лічыць акадэмік, неабходна распрацаваць такія тэхналогіі вытворчасці сельгаспрадукцыі на забруджаных тэрыторыях, якія дазволяць перайсці да рэспубліканскіх допушчальных узроўняў утрымання радыенуклідаў (РДУ) у мясе і малацэ, адпаведных нормам, якія прынятыя ў Расіі для чыстых тэрыторыяў. «Гэта дазволіць Беларусі экспартаваць сваю сельгаспрадукцыю, атрыманую як з чыстых, гэтак і з забруджаных сельгасугоддзяў», — сказаў вучоны. Паводле ягоных словаў, рэалізацыя дадзенай праграмы, над якой працуюць айчынныя вучоныя, штогод запатрабуе прыкладна 50 мільёнаў долараў ЗША. ■

**БелаПАН**

## НДА «шлюбуецца» з законам

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў, якая аб'ядноўвае звыш 400 структураў «трэцяга сектара», вырашыла ўзаконіць сваё існаванне і падала дакументы на рэгістрацыю ў міністэрства юстыцыі. Заснавальнікамі Асамблеі выступілі 34 арганізацыі – астатнія не паспелі падаць неабходныя дакументы, каб стаць сузаснавальнікамі, але яны ўвойдуць у аб'яднанне пазней.

Кіраўнік рабочай групы Асамблеі Алесь Бяляцкі заяўляе: «Улады робяць вельмі шмат, каб разбурыць грамадзянскую супольнасць, і не даюць нармальна працаваць. Кангрэс вырашыў, што рэгістрацыя дасць дадатковыя магчымасці для працы, таму што існуючае заканадаўства не дае магчымасці адкрыта гаварыць пра Асамблею». «Шлюбаванне з законам», няхай і прынятым нелегітымнай уладаю, тым больш важнае, што «трэці сектар» у асобе Асамблеі мяркуе прыняць найактыўнейшы ўдзел у назіранні за прэзідэнцкімі выбарамі. Наяўнасць афіцыйнага статусу ў Асамблеі дазволіць ёй пазбегнуць непатрэбных праблемаў. ■

## Супраць сексуальнай эксплуатацыі

**Аляксей АРЭШКА**

З другой дэкады студзеня ў Мінску адкрылася тэлефонная кансультацыйная лінія для жанчын, жадаючых выехаць за мяжу з мэтай пошуку работы, вучобы або шлюбу.

Як паведамілі ў Беларускай асацыяцыі маладых хрысціянскіх жанчын, кансультацыі будуць праводзіцца адзін раз на тыдзень, па серадах, нумар інфалініі 245-31-67.

Тэлефонная лінія адкрылася ў рамках праекта «Арыядна», галоўная мэта якога — прадухіленне вывазу беларускіх жанчын для сексуальнай эксплуатацыі за мяжу, у першую чаргу ў Польшчу, а таксама іншыя краіны Еўропы і Амерыкі. Праект рэалізуецца з лістапада 2000 года Беларускай асацыяцыяй маладых хрысціянскіх жанчын і польскім Фондам супраць гандлю жанчынамі «Ла Страда» пры падтрымцы фонду Стэфана Баторыя і польскага прадстаўніцтва АБСЕ.

Супрацоўнікі інфалініі, якая пачала дзейнічаць у Мінску, прайшлі спецыяльную падрыхтоўку ў фондзе «Ла Страда». Акрамя таго, для актывізацыі сумесных намаганняў няўрадавых і дзяржаўных структураў па прадухіленні гандлю жанчынамі, а таксама з мэтай стварэння сеткі асобаў і арганізацыяў, зацікаўленых у супрацоўніцтве, ва ўсіх абласных цэнтрах Беларусі на працягу 2001 года будуць арганізаваныя агульнаадукацыйныя семінары і прэс-канферэнцыі з удзелам экспертаў фонду «Ла Страда». У рамках праекта «Арыядна» плануецца выданне кніг, буклетаў і іншых інфармацыйных матэрыялаў. ■

**БелаПАН**

## Стаўка Масквы: не Лукашэнка, але кадэбіст?

**Алесь АБРАМОВІЧ**

Пры Адміністрацыі прэзідэнта Расіі створана адмысловая аналітычная група, якая будзе вывучаць сітуацыю ў Беларусі і прагназаваць магчымыя варыянты сёлетніх прэзідэнцкіх выбараў, паведаміла 12 студзеня расійская газета «Сегодня» са спасылкай на «неафіцыйныя крыніцы ў Крамлі».

Пачынаючы са жніўня 2000 года прадстаўнікі гэтай групы ўжо тройчы наведалі Беларусь і прадставілі справаздачы прэзідэнту Расіі Уладзіміру Пуціну. «Сегодня» сцвярджае, што аснову аналітычнай групы складаюць былыя супрацоўнікі КДБ Беларусі, якія пакінулі свае пасады з-за нязгоды з палітыкай Аляксандра Лукашэнкі, і таму яны будуць раіць Уладзіміру Пуціну не «ставіць» на Лукашэнку на выбарах, а падтрымаць былога старшыню КДБ Беларусі Уладзіміра Мацкевіча, які зараз знаходзіцца ў Маскве. ■

**БелаПАН**

## Грамада яшчэ больш пнецца ў «палату»

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

28 студзеня мае адбыцца пленум ЦК БСДП (Народная Грамада), на якім кіраўніцтва партыі плануе вызначыцца па ўдзеле ў давыбарах у палату прадстаўнікоў. Крыніца ў кіраўніцтве Грамады паведамляе, што сацыял-дэмакраты могуць кардынальна змяніць падыход да гэтай кампаніі і выставяць 13 кандыдатаў у дэпутаты – каб закрыць усе 13 застаўшыхся акругаў. Прычым, у адрозненне ад леташняга восеньскага фарсу, гэтым разам партыя пойдзе на давыбары афіцыйна, каб бесперашкодна зарэгістраваць усіх сваіх кандыдатаў.

Намеснік старшыні партыі Уладзімір Нісцюк сцвярджае, што такі настрой існуе ў кіраўніцтве Грамады. «Народная Грамада – самая прагматычная, самая практычная з усіх партыяў. Усе партыі, за выключэннем Калякіна і Гайдукевіча, ідуць на прэзідэнцкія выбары ў ролі першакласніка, не маючы ніякага вопыту ўдзелу ў выбарчай кампаніі», — заявіў У.Нісцюк. ■

## На Магілёўшчыне стане меней святла

**Канстанцін УВАРАЎ**

Магілёўскія энергетыкі гатовы адключаць святло даўжнікам, паколькі іншага спосабу атрымаць грошы са спажыўцоў энергіі ў іх часта проста не застаецца.

У пачатку гэтага года доўг спажыўцоў перад энергетыкамі Магілёўскай вобласці перавысіў 58 мільярдаў рублёў. Сур'ёзныя нараканні выклікае і выкананне бягучых плацяжоў. Так, за лістапад 2000 года прадпрыемствы аграпрамысловага комплексу Магілёўшчыны аплацілі толькі 2% ужытай энергіі. Як вынік — большасць сельскіх гаспадарак згубілі права на адтэрміноўку па аплаце запазычанасці. ■

**БелаПАН**

## Надзвычайныя здарэнні

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ**

У пятніцу, 12 студзеня, у Беларусі адбыліся некалькі надзвычайных здарэнняў. Паводле інфармацыі прэс-службы міністэрства надзвычайных справаў, 12 студзеня ў 10 кіламетрах ад вёскі Васількова Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці пры правядзенні капітальнага рамонту адной з свідравінаў Дуброўскага радовішча «Беларусьнафты» адбыўся выкід газанафтавай эмульсіі (87% нафты на 13% вады). Паколькі рабочы ціск нафтавага пласта складае 260 атмасфераў, утварыўся нафтавы фантан. Падраздзяленнямі МНС сумесна з рабочымі нафтаправода аварыя ліквідаваная, вядуцца работы па адпампоўцы разлітай нафты.

У той жа дзень у мікрараёне «Сож» Крычава прарвала цеплатрасу, у выніку чаго без цеплазабеспячэння засталіся 7 пяціпавярховых дамоў. Аварыя адбылася ў сувязі з тым, што труба цеплатрасы пражавела.

Нарэшце, 12 студзеня ў рэспубліканскі атрад спецыяльнага прызначэння МНС паступіла паведамленне ад жыхароў дома № 39 па вуліцы Філімонава ў Мінску пра тое, што ў пад'ездзе знойдзена ртуць. Спецыялісты, якія прыбылі на месца здарэння, канфіскавалі дзве шкляныя ёмістасці з ртуццю агульнай вагой 500 грамаў. ■

**БелаПАН**

# Нет прописки — нет подарков

Наталья РАДИНА

**Первый минчанин нового тысячелетия — Сережа Латушкин. Он появился на свет в 2 часа 15 минут 1 января. Но вопреки неоспоримой очевидности Мингорисполком назвал первым другого ребенка. Ему и достались обещанные властями подарки. А Сережу не одарили из-за отсутствия у его матери столичной прописки.**

Вера Лобас и Сергей Латушкин очень боялись потерять Сережу. Полтора года назад у них родился ребенок с пороком сердца, он прожил два дня. Но в новогоднюю ночь в роддоме № 7 Вера Лобас с Божьей помощью родила здорового мальчика весом 3.270 г.

Утром врачи поздравили роженицу, чей ребенок возглавил список самых юных минчан третьего тысячелетия. Так что, по их мнению, если не квартира, то телевизор или холодильник Сереже от Мингорисполкома достанутся обязательно. И сделает такой новогодний подарок сам недавно назначенный «мэр» столицы Михаил Павлов. Но из минского городского головы Дед Мороз получился неважный — поздравлять мам он приехал 5 января.

В этот день Веру и ее младенца уже выписывали из роддома, а обещанного подарка от Минского горисполкома все не было. Когда Вера уже собралась уезжать, медсестра шепотом попросила женщину подняться на четвертый этаж. Вера удивилась, что ее, мать, родившую первого минчанина XXI, ***вот так*** приглашают на церемонию вручения подарков от Мингорисполкома. Еще большее удивление она испытала поднявшись. Главврач, увидев ее, прошипела: «А вы что здесь делаете?»

Вере Федоровне там действительно нечего было делать. Оказалось, что, по мнению главы Мингорисполкома, первым в Минске родился не ее Сережа. Михаил Павлов вручил телевизор не ей, а Зинаиде Кухаревой, родившей сына Владислава в 4 часа 23 минуты. В ходе развития событий Вера Лобас наблюдала, как «мэр» одаривал телевизорами, холодильниками и пылесосами женщин, родивших своих младенцев гораздо позднее. Поздравили женщину, родившую 1 января в 12.45.

Ей же, онемевшей от удивления и обиды, главврач посоветовала уйти в палату. Туда ей и принесли комплект постельного белья за 8 тысяч рублей. Вот и все, что получил первый минчанин третьего тысячелетия Сережа Латушкин от Михаила Павлова, мэра белорусской столицы. Никчемность подарка мэрия объяснила тем, что у Веры Лобас отсутствует минская прописка. Хотя подарок предназначен не ей, а младенцу, у которого прописка есть.



Фота Ул. ШЛАПАКА

У Веры Федоровны действительно нет столичной прописки, хотя родилась она в Минске, шесть лет после смерти отца училась в минской школе-интернате №5 г.Минска. Потом уехала к мужу в Гомельскую область, но он погиб, оставив Веру одну с четырьмя детьми. Два года назад она вышла замуж за минчанина Сергея Латушкина. Но прописать многодетную мать в двухкомнатной квартире Сергея, где кроме него живут его мать, брат и сестра, невозможно. Поэтому сегодня Вера с детьми и мужем Сергеем вынуждены жить у родственников.

Уже через 9 дней, не окрепнув после родов, Вера была вынуждена выйти на работу. Сегодня она на морозе торгует с лотка фруктами. Нужно зарабатывать деньги, чтобы прокормить пятеро детей. За Сережей присматривают старшие дети. Хоть какой-то поддержки со стороны властей женщина не ждет. Знаменитой она стала только среди коллег по работе. Только они, наверно, и знают, кто на самом деле стал первым минчанином третьего тысячелетия...

Акция с вручением телевизоров и холодильников первым младенцам тысячелетия, по идее, должна была прибавить новому главе Мингорисполкома популярности. Вместо этого Михаилу Павлову грозит репутация сегрегатора, который даже новогодних рожениц умудрился поделить на ***своих и чужих,*** и бюрократа, для которого минчанка без прописки – пустое место. Поэтому неудивительно, что Михаил Павлов не смог понять суть события — Сережа Латушкин родился в Минске, в минском роддоме раздался его первый крик и будь он хоть гражданином Канады, Перу или Чечни все равно он родился в столице Беларуси ***первым.*** ■

ІНТЭРФАКС

## Людзьмі створаная мадыфікаваная малпа

Амерыканскія вучоныя распрацавалі тэхналогію, якая дазваляе ствараць малпаў, чый арганізм здольны імітаваць захворванні чалавека. Па словах аўтараў вынаходніцтва (вучоных з Рэгіянальнага цэнтра даследавання прыматаў штата Арэгон) гэты эксперыментальны крок у сферы распрацоўкі метадаў барацьбы супраць найбольш небяспечных захворванняў чалавека.

Даследчыкі абвясцілі, што ім удалося ўвесці ў ДНК зародка малпы-рэзуса звычайныя гены-маркеры (узятыя ад медузы). Гэтая тэхналогія дазваляе здзяйсняць больш значныя змены ў арганізме малпаў. У прыватнасці, можна будзе прымусіць арганізм малпы імітаваць уздзеянне віруса СНІД на чалавека.

Падобныя генетычна мадыфікаваныя жывёліны могуць стаць болей эфектыўнымі паддоследнымі, чым мышы і мухі, якіх выкарыстоўваюць у цяперашніх лабараторыях. Генетычна мадыфікаванай малпе далі імя Эндзі, абыгрываючы англійскую назву дэзаксірыбануклеінавай кіслаты (DNA), сказаную справа налева. ■

СВЕДЧАННЕ

# Врачебное заключение

**В опубликованном в предыдущем номере газеты материале «Врачебное заключение» оказалось пропущено начало раздела об анализе личностной аномальности освидетельствуемого. Ниже мы печатаем текст пропуска.**

## Структура и анализ личностной аномальности

**Анализ биографии** обращает внимание на то, что более 2-3-х лет (а зачастую и нескольких месяцев) Лукашенко (здесь и далее — Л.) ни на одном месте работы не удерживался, что связано с проблемами поддержания нормальных взаимоотношений с коллективом, социальной группой, прежде всего на эмоциональном уровне, а также неспособностью подчиняться существующим социальным нормам и субкультурным стереотипам.

**Александр ФЕДУТА, бывший начальник Управления общественно-политической информации Администрации Президента:**

«Обычно до этого *(до избрания президентом. — **АВТ.**)* подтверждалась анекдотическая фраза, приписываемая молвой его супруге, Галине Родионовне: «Его нигде больше двух лет не держали». (34, стр.262).



Любопытно, что даже на посту президента РБ до возникновения конфликта с ближайшим социальным окружением (Верховный Совет, Конституционный суд, Центризбирком), вынудившего Л. пойти на целый ряд грубых нарушений закона, необходимых для удержания власти, прошло около двух лет.

Невозможность длительно удержаться на одном месте работы, а также частая смена профиля деятельности говорит о периодах дезадаптации в профессиональной сфере (непосредственно по специальности педагога отработал только три месяца). Временами отмечаются эпизоды социальной дезадаптации (например, переход на менее социально значимую работу ответственного секретаря Шкловского районного общества «Знание» с должности инструктора Октябрьского райисполкома г.Могилёва, второй эпизод службы в армии, избиение тракториста). Отмечается постоянная семейная дезадаптация (не проживает с женой, но и не оформляет развода, не носит обручальное кольцо).

**Данные о детском возрасте** весьма немногочисленны. С высокой степенью вероятности можно предположить тяжёлые психологические условия формирования, с учётом субкультурных стереотипов восточно-белорусских деревень по отношению к незаконнорожденным, а также низким материальным достатком неполной семьи.

**Александр ФЕДУТА**:

«Перед нами классический тип закомплексованного сельского мальчишки, безотцовщины или, как говорят в белорусских деревнях, «байструка». Он родился в 1954 году, когда деревня не успела еще толком оправиться после войны и от голода, и от страха. Лишний кусок хлеба в такой семье попросту невозможен, да и опасность потерять убогий достаток была вполне реальной». (34, стр.260). Также не исключена и психопатологическая отягощенность по отцовской линии. Кроме того, не до конца прояснённым остается вопрос о национальной принадлежности Л.

«Со всей убедительностью следует огромная роль в генезе психопатий семейного неблагополучия». (6, стр.235). По имеющимся данным, в школе учился ровно, выделялся упорными занятиями спортом, однако сколько-нибудь значимых успехов ни в учёбе, ни в спорте не добился (начальные признаки формирующейся гиперкомпенсации).

**По устным свидетельствам однокурсников**, во время учёбы в Могилёвском пединституте с сокурсниками не общался, друзей практически не имел, отличался утрированно принципиальным характером, мелочностью, воинственно-щепетильным отношением к вопросам, связанным с правами собственной личности, что не соответствовало реальной ситуации.

Показателен эпизод, описанный соседом А.Лукашенко по студенческому общежитию: при замене белья получив рваную простынь, Л. более часа доказывал кастелянше общежития, что она халатно относится к своим профессиональным обязанностям и этим портит ему жизнь.

**Первый раз попал в поле зрения психиатров** после окончания пединститута, когда, явившись на прием к первому секретарю обкома партии, Л. упорно просил назначить его председателем колхоза, ссылаясь на свое сельское происхождение и знание особенностей ведения хозяйства. Л. обещал сделать доверенный ему колхоз передовым. Со слов одного из руководителей Могилевской областной психиатрической больницы, тогда же Л. был направлен на освидетельствование. Ему был выставлен диагноз «мозаичная психопатия».

Данный эпизод был интерпретирован как проявление сверхценных идей и была заведена амбулаторная карта, в которую впоследствии попали сведения о том, что Л. был комиссован из армии по ст.7б с тем же диагнозом в 1982 году с должности замполита в/ч 04104. Известно, что никакими серьезными соматическими заболеваниями Л. не страдает, что является косвенным подтверждением изложенного факта.

В период 1977-78 гг. директор Могилевского облпищеторга, где Л. тогда работал секретарем ВЛКСМ, обратился к начмеду МОПБ с просьбой о психиатрическом освидетельствовании Л. в связи с тем, что тот собирает любые малозначительные факты нарушений производственного процесса и трудовой дисциплины, пытаясь их представить в качестве доказательства якобы раскрытой им мафиозной структуры. Л. в тот период отличался неадекватным поведением (игнорировал социальные нормы и субкультурные стереотипы своей социальной группы), общался преимущественно с грузчиками и низкоквалифицированными рабочими, весьма успешно манипулируя ими с целью вовлечения в борьбу против администрации. Был рекомендован на перевод в райисполком администрацией облпищеторга (по всей имеющейся информации, такой шаг администрации был продиктован желанием избавиться от Л. как источника многочисленных конфликтов).

Однако и на новом месте работы Л. не смог удержаться по тем же причинам. Косвенным подтверждением неспособности Л. поддерживать нормальные служебные взаимоотношения является его перевод с перспективной и престижной должности инструктора Октябрьского райисполкома г.Могилёва на работу ответственным секретарем общества «Знание» в г. Шклов.

Медицинская карта больного Л. была похищена из архива МОПБ в период проведения президентских выборов (между первым и вторым турами голосования) тогдашним начмедом психбольницы Сакадынцем О.С. и работником облздрава Ореховским, свидетелями чего были сотрудники психбольницы. Сразу после прихода Л. к власти г-н Ореховский назначается зам.министра здравоохранения РБ, а г-н Сакадынец становится зам. начальника облздравотдела.

**В качестве еще одного аргумента** в пользу того, что Л. сталкивался с деятельностью психиатров на личном опыте в качестве пациента, можно рассматривать случай с министром обороны РБ Чумаковым.

В 1998 году, при освидетельствовании лечкомиссией министра обороны РБ Чумакова у него было выявлено психическое заболевание, несовместимое не только с руководством, но и вообще со службой в рядах Вооруженных сил. Реакции на заключении комиссии о необходимости выхода министра обороны на пенсию по состоянию здоровья не последовало, хотя неосведомленность Л. в данном вопросе представляется крайне маловероятной.

В следующем году в состав медицинской комиссии психиатр включен не был, в результате чего комиссия не смогла ни подтвердить, ни опровергнуть выставленный диагноз.

**Анатолий НЕЗВАНОВ, «Белорусская деловая газета»:**

«По словам бывшего начальника медицинской службы Главного штаба Вооруженных сил полковника Мелюшко (он возглавлял межведомственную комиссию по медицинскому обследованию), медики забили тревогу еще в 1998 году. Однако по каким-то причинам те, кому положено принимать подобные кадровые решения, их не услышали. Спустя год, в декабре 1999-го, во время обследования неутешительный диагноз вновь был подтвержден. По данному факту Советом безопасности на имя главы государства была даже подготовлена соответствующая докладная записка. Мы не располагаем информацией о том, какова была реакция президента. Заметим лишь, что во время заседания коллегии министерства обороны, которое состоялось в начале марта, Александр Лукашенко среди прочих вопросов затрагивал и эту проблему. Как сообщают наши источники в военном ведомстве, на этом совещании генералитета президент публично заявил, что все слухи о болезни Чумакова — инсинуации. При этом он обвинил одного из высокопоставленных чиновников минобороны в заговоре. Дескать, нечего друг друга подсиживать...» (20)

После публикации данной статьи в «Белорусской деловой газете» разгорелся громкий скандал в независимой прессе, который затем благополучно затих. Однако осталось несколько вопросов: кто именно из психиатров выставил диагноз и что с ним произошло далее? Осматривал ли он хоть раз Л.? И самый интересный — чем объяснить реакцию отрицания очевидных фактов со стороны Л.? Вполне логично предположить, что сам Л. ранее сталкивался с проблемами из-за состояния своего психического здоровья и боится создавать прецедент.

Далее по тексту публикации (см. номер за 12 января). ■

обнаруживается крайняя склонность к манипулятивным методикам и высокая способность к их осуществлению. Мышление гражданина Лукашенко А.Г. носит аффективный характер, мир им воспринимается как враждебный, а происходящие события интерпретируются с точки зрения глобального заговора, направленного против него.

Личностные особенности гражданина Лукашенко А.Г. в случае его дальнейшего нахождения у власти, с учетом клинической динамики, которая наблюдалась в последние 6 лет, с высокой степенью вероятности способны привести к массовому террору и установлению в стране абсолютно ничем не ограниченной личной власти.

Все вышеизложенное, а также непосредственная опасность, грозящая гражданам Республики Беларусь и всему мировому сообществу в случае дальнейшего нахождения Лукашенко А.Г. на посту Президента Республики Беларусь, вынуждают меня довести до сведения широкой общественности ставшие мне известными сведения медицинского характера.

Дмитрий Щигельский,
врач-психиатр.

ЭКСПРЭС

# Прогнозы, долги, расчеты

Андрей КАРПОВИЧ

### На фондовом рынке США — очередной обвал

Первые торги нового, 2001 года на американском фондовом рынке не принесли ожидаемого облегчения. Вместо того, чтобы оставить позади плохие воспоминания и с новыми силами начать рост, индекс высокотехнологичных компаний *NASDAQ* провалился в очередной раз, достигнув минимального за последние 22 месяца значения. Подобного на Уоллстрит не было почти два года.

Не лучше обстояли дела и на бирже, где котируются акции ведущих промышленных компаний. Главный показатель деловой активности Америки — индекс *Dow Jones* снизился сразу на 140 пунктов (-1,30%). Почти на 10% подешевели в цене акции *General Electric*, а также компании *Boeing*.

Западные аналитики во главе с финансистом Джорджем Соросом уже предрекают возможность повторения мирового финансового кризиса 1998 года.

### Действующая нормативно-правовая база применения индексов стоимости строительно-монтажных работ морально устарела

Анализ проводимых в течение 2000 года проверок правильности применения индексов изменения стоимости строительно-монтажных работ выявил не всегда квалифицированную работу экономических служб предприятий, ответственных за вопросы ценообразования.

Действующая нормативно-правовая база морально устарела, производственные мощности загружены на 40-50%. Как сообщает «Транспортный вестник», для исправления этих и других негативных явлений Комитет по автомобильным дорогам планирует ввести в действие с 1 января 2001 года некоторые новшества в экономической политике.

В целях экономии средств дорожного фонда и недопущения необоснованного роста цен, а также учитывая, что индексы изменения стоимости дорожных работ не заинтересовывают подрядные организации в снижении издержек производства, комитет планирует осуществить переход на новую систему формирования стоимости дорожных работ, предусматривающую расчеты между заказчиком и подрядчиком за этапы выполненных работ.

### Сусветны банк за скарачэнне льготаў

У сакавіку Сусветны банк (СБ) прапануе праект новай стратэгіі супрацоўніцтва з Беларуссю на бліжэйшыя 3 гады.

Калі цяперашняя дамова аб супрацоўніцтве, якая была прынятая напрыканцы 1998 года, з'яўляецца дакументам «для службовага карыстання», дык новы праект плануецца вынесці на абмеркаванне грамадства.

Плануецца, напрыклад, правесці рэформу сістэмы сацыяльнай абароны. Паводле словаў пастаяннага прадстаўніка СБ Сяргея Куліка, «размова тут вядзецца аб пераглядзе сістэмы льготаў, якая існавала ў Савецкім Саюзе і дасталася ў спадчыну Беларусі. Без кардынальнай змены падыходаў, пераарыентацыі бюджэту і інвестыцыяў у асноўны вытворчы капітал мы ставім пад пагрозу развіццё краіны і дабрабыт нашых дзяцей. Таму трэба перагледзець сённяшнюю сістэму, бо львіная доля бюджэту выдаткоўваецца на сацыяльныя патрэбы». ■

# Смецце назаўсёды

Кірыла ПАЗЬНЯК

Адна з самых відочных і турботных праблемаў буйных гарадоў – смецце. Дакладней, як яго збіраць і куды дзяваць. Мінск тут не выключэнне. У беларускай сталіцы штогод з'яўляецца да 600 тысяч тонаў побытавых адходаў і звыш 20 мільёнаў тонаў прамысловых парэшткаў.

Што да побытавага смецця, то яго зборам са смеццеправодаў і каналізацыяў, а потым утылізацыяй займаюцца адмысловыя службы камунальнага ўпраўлення Мінгарвыканкама. Напрыклад, за мінулы год імі было зліквідавана (гэта значыць, пераапрацавана альбо проста адпраўлена на звалкі) 400 тысяч тонаў поліэтылену, 4 тысячы тонаў макулатуры, 15 тысяч тонаў шкла, 20 тысяч тонаў тэкстылю (лахмачча).

Побытавыя адходы скідаюцца ў асноўным на Трасцянецкую і Паўночную звалкі. Між тым Трасцянецкая звалка, што дзейнічае з 50-ых гадоў і ўзвышаецца зараз над зямлёй на некалькі дзесяткаў метраў, ужо даўно ператварылася ў зону экалагічнага бедства. Справа ў тым, што раней сюды вывозіліся не толькі побытавыя, але і прамысловыя сурагаты, у тым ліку самых высокіх класаў шкоднасці, а ў выніку бактэрыяльнай заражанасці тамтэйшай глебы ёсць немалая пагроза атручання пітной вады. Між тым Трасцянецкая звалка месціцца зусім побач з Мінскам, а паводле плана будаўнічага развіцця горада ў хуткім часе яна магла б апынуцца ўжо ў межах сталіцы. Аднак, як паведаміў начальнік камунальнага ўпраўлення Мінгарвыканкама Уладзімір Калодка, у бліжэйшыя 2 гады звалку плануецца закрыць. Такое рашэнне чакалася даўно і з маральных вымогаў, бо звалка знаходзіцца на касцях: у вайну тут расстрэльвалі ахвяраў канцлагера «Трасцянец».

Спецыялісты даводзяць, што на тую колькасць камунальных адходаў, якую пакідаюць за сабой менчукі, у горадзе павінны працаваць па ідэі некалькі смеццепераапрацоўчых заводаў. Аднак дзейнічае ўсяго толькі адзін — «Экарэс», які размешчаны ў мікрараёне Шабаны. Справа ў тым, што дадатковыя магутнасці і не патрэбныя: для пераапрацоўкі смецця на нейкія карысныя рэчывы яно павінна збірацца селекцыйным метадам.



Фота Ул ШЛАПАКА

У нас у смеццеправоды патрапляе абсалютна ўсё без разбору. Але тое, што атрымліваецца пасля пераапрацоўкі са смецця, якое змяшчае, напрыклад, ртутныя лямпы, акумулятары і батарэйкі, нікуды не прыдатнае – высокая ступень утрымання соляў металаў усё адно застаецца.

Усе эксперыменты наладзіць раздзельны збор побытавых адходаў мінулымі гадамі цалкам праваліліся. У тых сталічных кварталах, дзе камунальшчыкі ставілі спецыяльныя кантэйнеры пад самага рознага кшталту адходы, на падзел смецця, так бы мовіць, на віды людзі забываліся праз некалькі тыдняў і зноў вярталіся да смеццеправодаў. У Еўропе раздзельны збор наладжаны. Уладзімір Калодка тлумачыць гэта тым, што, па-першае, там усё жытло пераважна індывідуальнае, а па-другое, нават у шматпавярховікаў ёсць гаспадары, якія адказваюць у тым ліку і за вываз смецця, «а ў нас у доме гаспадара няма, усё вакол калгаснае, усё вакол маё, і няма з каго спытаць».

Часткова тым не менш раздзельны збор побытавых адходаў паспрабуюць арганізаваць. Сёлета мяркуецца падпісаць дамовы на гэты конт з насельніцтвам, што пражывае ў прыватным сектары. Разам з тым мінскія ўлады збіраюцца павялічыць колькасць прыёмных пунктаў гэтак званай другаснай сыравіны. Па словах У.Калодкі, увесь спадзеў у арганізацыі раздзельнага збору смецця на бамжоў і малазабяспечаныя слаі насельніцтва, у прыватнасці, на пенсіянераў. Тым больш што апошнім часам макулатуру, старое адзенне, ламачча «людзі нясуць», бо «ўсё больш бяднеюць». А расцэнкі на другсыравіну зараз такія: за адзін здадзены кілаграм макулатуры можна зарабіць 48 рублёў, тэкстыль – 20 рублёў, за адну пластмасавую бутэльку – усяго 2 рублі.

З-за гэтага пэт-бутэлькі асабліва і не здаюць, таму іхні збор праходзіць нездавальняюча. Да ўсяго і сама пераапрацоўка гэтай тары ў Беларусі пакуль што толькі праект. Апрача таго, марудна ідзе працэс утылізацыі кінутых аўтамабіляў. Мінскія камунальшчыкі нават баяцца даваць рэкламу аб гэтай паслузе, бо не маюць тэхнікі па іх транспартоўцы, хоць у 2000 годзе ім удалося адправіць на утылізацыю 400 кузаваў.

Працэдура утылізацыі побытавых адходаў ва ўсім свеце робіцца 2 спосабамі – альбо спаленнем, альбо прэсаваннем. Як кажа начальнік камунальнага ўпраўлення сталіцы, першы спосаб вельмі дарагі і Беларусі не падыходзіць, таму абраная тэхналогія прасавання. Выкарыстоўваць яе пачнуць з 2001 года, аднак увядзенне ў эксплуатацыю ўсёй гэтай праграмы расцягнецца на некалькі гадоў (яна каштуе 6,8 мільярда рублёў, а ўвесь сёлетні бюджэт упраўлення складае 7,5 мільярда). У сярэдзіне года на смеццепераапрацоўчы завод «Экарэс» будзе дастаўлены першы прэс вытворчасці адной са шведскіх фірмаў коштам 700 тысяч долараў. Усё будзе выглядаць такім чынам: смецце будзе прасавацца і змяшчацца ў спецыяльныя цюкі, якія потым будуць адвозіцца на палігон і хавацца там пад грунт. Ад пачатку да канца гэты працэс зойме 8-12 гадзінаў.

Тэхналогія прасавання дасць магчымасць скараціць плошчы звалак, і больш там не будуць корпацца ні птушкі, ні бамжы. Разам з тым гэта значыць, што іх стане больш на сметніках у самім горадзе. ■

Рэдакцыя прапаноўвае сваім падпісчыкам аплаціць падпіску праз аддзяленні ААБ «Беларусбанка».

**Для аплаты падпіскі адпаведную квітанцыю (гл. ніжэй) трэба выразаць нажніцамі. Адзначце ў квітанцыі тэрмін, на які афармляеце падпіску, прозвішча падпісчыка і паштовы адрас, на які дастаўляць газету.**

**Кошт падпіскі на адзін месяц 1040 руб. Калі вы жадаеце падпісацца на большы тэрмін, то павялічце суму ў адпаведную колькасць разоў.**

## КВІТАНЦЫЯ ДЛЯ «БЕЛАРУСБАНКА»

Форма № ПД-5

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(индекс) (адрес)

На 2001 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

За подписку на газету «Наша СВАБОДА» — Сумма

Пеня

Плательщик — Всего

Кассир

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество, адрес)

На 2001 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

**КВИТАНЦИЯ**

За подписку на газету «Наша СВАБОДА» — Сумма

Кассир

Пеня

Плательщик — Всего

ТУРЫЗМ

# Добро пожаловать в «Белкатрас»

Александр КОЛЕСО

**Беларуси отчаянно не хватает твердой конвертируемой валюты. Где ее взять, если экспорт ограничен, иностранных инвестиций практически нет, а граждане, даже имеющие «доллары, марочки», предпочитают вкладывать их в чулки, а не в экономику родной страны?**

И все-таки выход есть. Это иностранный туризм, за счет которого фактически живут многие страны, как бедные, некогда «демократические» (например, Болгария), так и развитые (например, Испания и многие другие). Вот только не хотят богатые туристы ехать в страну голубых озер — Беларусь, о чем не раз писала пресса, а министр спорта и туризма обрушивал гневные тирады на своих подчиненных, никак не могущих «перенаправить» туристические потоки. Но те вяло отнекивались, заявляя, что в нашей стране нечего показать пресыщенным посетителям, да и белорусский сервис «ненавязчив». Но надо сказать, что эти чиновники абсолютно неправы. Все дело в том, кому, как и что показывать. Конечно, нет у нас европейского сервиса и ломящихся от изобилия магазинов, зато достопримечательностей — море. Нужно только правильно все организовать.

Все знают, что японцы (отнюдь не самые бедные туристы) летят за многие тысячи километров, чтобы посетить в США знаменитую тюрьму Алькатрас, посидеть запертыми в одной из ее камер. Пользуется успехом у туристов и посещение индейских резерваций и всяческих заповедников. Но ведь вся Беларусь сегодня является заповедником коммунизма, и здесь есть что показать даже самым взыскательным любителям исторических раритетов. Ведь сейчас на американском Брайтоне вошли в моду «ностальгические магазины», где можно купить колбасу и другие продукты не очень высокого «советского» качества по слегка сниженной цене. Так почему бы не организовать специально для зарубежных туристов такие магазины в Беларуси, где продукты сегодняшнего качества будут продавать по слегка сниженным ценам? Ведь будет достигнут сразу двойной эффект: туристы и сами продукты увидят, и очереди за ними, как в эпоху почти построенного коммунизма. А то, что очереди выстроятся, сомневаться не приходится — несчастные белорусы (в подавляющем большинстве) будуть покупать любую дрянь, лишь бы подешевле. А иначе — как прожить?

Что же касается заповедников, то в этой роли могут выступить большинство колхозов, где интуристам продемонстрируют полную разруху, окончательно «добитый» сельхозинвентарь и допотопные фермы, а также синие от постоянного пьянства лица «аборигенов». Можно также организовать весьма колоритную поездку на городском транспорте, где любознательные туристы не только увидят старенький подвижной состав, но и познакомятся с чисто белорусским развлечением: вытаскиванием контролерами с помощью милиции несчастных пенсионеров, которые не смогли оплатить свою «половину тарифа». Ведь как надо властям не любить свой народ, чтобы заставить людей, отдавших всю жизнь и здоровье этой самой стране, платить за проезд в городском транспорте из своих нищенских пенсий! Сегодня этого нет ни в одной стране бывшего СССР, и только белорусская власть позаботилась о том, чтобы жалкие пенсионерские рубли не прошли мимо государственного кармана.

И наконец — почему бы не организовать экскурсии в белорусские тюрьмы, колонии и казармы, показать их удобства и просторность? Ведь у посетивших эти заведения каких-нибудь японцев останутся впечатления на всю оставшуюся жизнь (если, конечно, их кондратий не хватит во время самого посещения). Впрочем, это, возможно, и лишнее — уже сам гостиничный сервис (как в бывшем Советском Союзе) даст столько острых ощущений...

И не надо соблазнять их красотами Несвижа, чудесами Беловежской пущи, нетронутостью Браславских озер. Подобное многочисленные туристы могут увидеть и там, где давно уже забыли о «призраке коммунизма», и поэтому каждому гостю предоставят все, чего душа пожелает, кроме ностальгии по рухнувшему. ■

